№ 17 (1580)

Серада, 29 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

### Надвор'е

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае надвор'е, часам ападкі (удзень пераважна снег), на асобных участках дарог галалёдзіца. Вецер заходні, 6—11 м/с, на большай частцы тэрыторыі парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — каля 0, Мінску, Гродне — 0...+2, Магілёве — +1...+3, Гомелі, Брэсце — +2...+4.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі снег, на дарогах галалёдзіца. Вецер няўстойлівы, 4—9 м/с. Паніжэнне тэмпературы паветра: уначы — -4...-9, па поўначы да -14, удзень — -3...-8, па поўдні краіны на працягу сутак — -1...-6.



# Беларусь развіталася з Уладзімірам Мулявіным

***

Няспынны паток людзей на працягу некалькіх гадзін агінаў учора сквер ля сталічнага Дома афіцэраў, дзе стаяла труна з целам знакамітага музыканта, нязменнага кіраўніка "Песняроў" Уладзіміра Мулявіна. Тысячы мінчан, жыхароў розных куткоў Беларусі з кветкамі і вянкамі ішлі развітацца з выдатным Музыкантам XX стагоддзя...



Фота Алеся СІЛІЧА.

***

НЕЗЛОБИВЫЕ ЗАМЕТКИ

# Взрывается ли бульба?

**Семен БУКЧИН**

Кое-кто до сих пор понять не может: а зачем, собственно, приезжал к нам Путин? Всяческие "эксперты" твердят привычное про "приватизацию", про "экономические интересы России", а кое-кто и старую пластинку не забывает — "про дальнейшее укрепление и развитие союзного государства".

Полагаю, господа, что все обстоит гораздо проще. Хозяин приезжал в свое имение проверить, как идут дела, все ли на месте и в порядке. Как водится, выслушал управляющего, дал соответствующие указания и отбыл в более приятные места, как раньше богатые баре, навестив свою деревеньку, отбывали за границу.

Разумеется, в нашем случае сохраняется "суверенный марафет": караул, флажки, кресла у камина, дежурные речи перед телекамерами, штампованные фразы и прочая мишура.

А, в общем, страна продана, а если поточнее и покрепче, то просрана и, судя по всему, окончательно. Кстати, не только сам белорусский народ (нация? население? аборигены? — впрочем, не все ли равно), но и демократический Запад немало преуспел в этой сделке. Границы НАТО и Европейского Союза на востоке четко определены. Беларусь отныне — признанная "зона влияния" России. Ну а уж как это называется — "Республика Беларусь", "Союз России и Беларуси" — это дело десятое, и никого, по сути, не заботит.

Разумеется, останутся у нас посольства иностранные и членство в ООН никто не отберет. Так ведь и в советские времена мы были членом (и даже одним из заложителей-основателей) этой почтенной организации. И что это меняло в нашем рабском положении?

Так как все-таки прошла барская (читай — московская) ревизия на Беларуси? Остался ли доволен помещик? Сумел ли соблюсти свои тайные интересы управляющий имением?

Одна очень умная газета советовала накануне вглядываться в лица, в особенности протокола и прочие детали. Полагаю, нужды в этом особой не было. Прелюдия, посвященная "мухам и котлетам", была уже сыграна в Москве. Там был задан тон.

А в Минске помещик просто положил перед управляющим имением список с очень жестко сформулированными пунктами и датами их выполнения. И, уверяю вас, управляющий подписал, ни секунды не торгуясь. Легкое вяканье насчет двух возможных эмиссионных центров — это так, по привычке. А главное, когда перед телекамерами московский барин только слегка коснулся "газовой темы", как управляющий тут же угодливо подсказал, что он уже и указ соответствующий насчет пуска в продажу "Белтрансгаза" продумал. Помещик только руками развел. Это ж надо! Еще недавно такой строптивый управляющий



уже впереди его, помещичьих, желаний бежит!

Когда-то эта должность на Беларуси называлась "аканом" (разумеется, от "эконома"). Но наш "аканом" это не тот, кто "экономит" (управляет) в наших с вами интересах. У нашего "аканома" свой интерес. И продиктован он более чем заурядными обстоятельствами.

Белорусская хатка вконец обветшала и вот-вот рухнет. Без российского почти дармового сырья ей не продержаться. Это с одной стороны. А с другой — международная ситуация вокруг "аканома" такова, что только Россия, при вполне очевидных и более чем серьезных уступках его в пользу российского же капитала, может гарантировать ему спокойное и даже вполне солидное будущее. На ее бескрайних просторах найдется место и его организаторским талантам и наверняка неплохим финансовым возможностям. Коли пришло время больших продаж, надо думать, наш "аканом" своего не упустит. Он ведь у нас первый рыночник.

А Россия, она ведь и в самом деле большая, на ее просторах всем места хватит, в том числе и для бывших, но сговорчивых и оказавших серьезные услуги "суверенных" президентов.

Скажете, а как же третий президентский срок, референдум на этот счет и соответствующие изменения к Конституции? Столько разговоров идет на эту тему...

Ах, друзья мои, да разве же в этом дело? В третьем, четвертом или шестом президентском сроке? Дело в нас самих, дорогие мои, в том, что мы за люди, какой мы в самом деле народ! Чего хотим от жизни? Вот где собака зарыта!

Ответы вроде на поверхности: хорошей жизни хотим, сытой, спокойной, благополучной. И чтоб по справедливости все было. Наш народ, он всегда за справедливость горой стоит. Но почему-то ждем мы ее то от московского помещика, то от страдающего ныне от ожирения Запада.

Ну с Западом — все ясно. Там правильно говорят: дело Беларуси — это прежде всего дело самих белорусов. Хотя, безусловно, и неплохо подторговывают нами в своих сделках с Россией. Но ведь они всегда там, на Западе, хорошо умели отстаивать собственные интересы. Хотя и просчитывались порой весьма капитально. Как, к примеру, в 1938—1939 годах...

А что до России... Хочется сказать: дорогие жены "пропавших бесследно", не шлите г-ну Путину слезных жалоб и прошений. И не потому, что у него каменное сердце. Он очень добрый человек, Владимир Владимирович. По глазам, по скромнейшей улыбке его это видно. И все-то он знает в деталях про то, как "пропали" ваши мужья. Но игра-то идет по-крупному у него с "аканомом" нашим! И здесь в расчет не принимаются "отдельные" человеческие судьбы и жизни.

Здесь мыслят глобально: геополитические, экономические интересы России, безусловно, на первом месте. Что тут значит жизнь отдельно взятого Гончара, как и жизнь отдельно взятого Захаренко? Мелочь! Пыль на ветру! Это с большой европейской трибуны можно щегольнуть красным словцом о правах человека и вызвать дружные аплодисменты хорошо ухоженных дам и джентльменов. А реальная жизнь, она груба, как весы продавца-шулера на Комаровке.

Хотя при случае великий гуманист Путин может, катаясь на лыжах, потрепать по щеке сельского мальчонку и даже подарить ему футбольный мяч или компьютер. Но слезы сына Дмитрия Завадского, годами не видящего своего отца, российского президента не трогают. Как и белорусского "аканома". А ведь последний, хотя бы из человеческого простого сочувствия, мог бы пригласить семьи "исчезнувших" к себе, обогреть их добрым словом, поддержкой, наконец.

Но как же решиться на такой обыкновенный человеческий поступок? Это же дети, жены и матери чуть ли не "врагов народа"!

Пусть будут благодарны и за то, что сами целы остались...

***

И вот мы живем при таком "аканоме". И еще возмущаемся, что платят на работе копейки, а цены взлетают почти каждый день, что в больницах не лечат, что пенсии нищенские... Смешной мы народ, ей-богу!

Когда-то Сталин, навязав после войны румынам "свой социализм", сказал не без презрения: "Мамалыга не взрывается". Прошло довольно много времени, и мы знаем, что "мамалыга" все-таки взорвалась. И как ужасна была судьба Чаушеску...

Я против всяческих революций и бунтов, которых еще и Пушкин боялся. Ну их к дьяволу с их кровью, жестокостью, бессмыслицей!

Но если "мамалыга" взорвалась, неужто "бульба" никогда не взорвется?

Я, конечно, про "революцию в мозгах". Чем, в самом деле, мамалыга лучше бульбы?

# Зварот

## да грамадзян Рэспублікі Беларусь

Паважаныя суайчыннікі!

Не сакрэт, што наша родная Беларусь перажывае не самы спрыяльны перыяд сваёй гісторыі: нерэфармаваная эканоміка ніяк не можа выбрацца з крызісу, пастаянна і няўхільна растуць цэны, без падтрымкі дзяржавы марнеюць нацыянальная культура і навука, з-за сур'ёзных пралікаў у знешняй палітыцы краіна ўсё больш набліжаецца да міжнароднай ізаляцыі. Паўстае пагроза не толькі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, а і наогул існаванню нацыянальнай дзяржавы беларусаў.

У гэтых умовах увага і надзея многіх грамадзян заканамерна звернута да інтэлігенцыі. Усім беларускім інтэлектуалам варта неадкладна і суладна задумацца, як згуртаваць усе свядомыя сілы грамадства для абароны роднай дзяржавы, для вызначэння далейшага лёсу Бацькаўшчыны, як прадухіліць пагрозу далейшага эканамічнага і энергетычнага крызісу, што рабіць для змякчэння наступстваў чарнобыльскай катастрофы, якім чынам пазбегнуць абвастрэння дэмаграфічных і экалагічных праблем, дзе знайсці сваё месца ў сусветных працэсах глабалізацыі, як дабіцца строгага захавання ўсімі Канстытуцыі і законаў краіны, чым дапамагчы пашырэнню роднай мовы, як паўнапраўна ўвайсці ў дэмакратычную еўрапейскую супольнасць...

Толькі тады, калі кожны з нас будзе адчуваць адказнасць за ўсё, што адбываецца на нашай зямлі, калі мы рашуча адкінем спробы навязаць нам ролю паслухмяных "вінцікаў" сістэмы, мы здолеем "людзьмі звацца" і захаваем сваю нацыянальную тоеснасць і дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Іначай мы застанёмся на ўзбочыне сучаснага прагрэсу і рана ці позна знікнем з памяці чалавецтва як народ, не варты павагі і падтрымкі.

Таму мы горача падтрымліваем прапанову аб скліканні Сходу інтэлігенцыі і ўхваляем захады рабочай групы па яго падрыхтоўцы. Заклікаем усіх, хто працуе на ніве навукі, культуры, адукацыі, аховы здароўя, журналістаў, дзяржаўных службоўцаў, інжынераў, прадпрымальнікаў, усіх, для каго дарагія ідэалы народнага шчасця і духоўнага адраджэння, паслаць на Сход сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў.

Шчыра спадзяёмся, што Усебеларускі сход інтэлігенцыі дапаможа адчуць нашу агульную еднасць, акрэсліць шляхі хуткага і цывілізаванага выйсця Радзімы з крызіснага становішча і стане прыкметнай падзеяй у гісторыі незалежнай і годнай Беларусі.

**Янка БРЫЛЬ, народны пісьменнік Беларусі,**
**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік,**
**Ніл ГІЛЕВІЧ, народны паэт Беларусі,**
**Генадзь БУРАЎКІН, паэт,**
**Аляксандр КАРПАЎ, рэжысёр,**
**Уладзімір АРЛОЎ, рэжысёр,**
**Леанід ШЧАМЯЛЁЎ, народны мастак Беларусі,**
**Уладзімір СТЭЛЬМАШОНАК, народны мастак Беларусі,**
**Андрэй ГАНЧАРЭНКА, акадэмік,**
**Алег ТРУСАЎ, старшыня ТБМ,**
**Васіль ЗУЁНАК, паэт.**

# 300 тысяч тон солі

## штогод узімку высыпаюць дарожнікі на трасы і тратуары Беларусі

Толькі ў студзені з Салігорска ў Мінск прыбылі 62 цягнікі з соллю. Дарожнікі сцвярджаюць, што альтэрнатывы солі супраць галалёдзіцы ў Беларусі пакуль няма. Соль — рэчыва айчыннай вытворчасці, каштуе танна і, акрамя таго, не патрабуецца вялікіх затрат на яе дастаўку.

Калі на вуліцы адліга і тэмпература паветра вагаецца ад -2 да +2, на дарогі сыплюць чыстую соль, калі ніжэй за 15 градусаў, выкарыстоўваюць пясчана-салевыя сумесі. Спецыялісты кажуць, што калі выкарыстоўваецца чыстая соль, — гэта лепш: крышталічнае рэчыва наносіць менш шкоды машынам, механізмам і навакольнаму асяроддзю.

Некалькі гадоў таму ў прэсе з'явілася інфармацыя, што вучоныя распрацавалі новае рэчыва ад галалёдзіцы: менш шкоднае, чым соль. А ў суседняй Расіі пачалі ўжо выкарыстоўваць для ачысткі дарог хлорысты кальцый.

У Камітэце па аўтамабільных дарогах Беларусі лічаць, што наша краіна яшчэ не гатова адмовіцца ад солі. Каб выкарыстаць замест яе хлорысты кальцый, спатрэбіцца змяніць усю сістэму зімовага догляду дарог. Акрамя таго, хлорысты кальцый выкарыстоўваюць вадкім, а гэта патрабуе спецыяльных ёмкасцей для яго захоўвання. Да таго ж, каштуе ён значна даражэй за мясцовую соль.

"Нашу соль купляюць і Польшча, і Літва, і Латвія, і выкарыстоўваюць яе там менавіта ад галалёдзіцы на дарогах", — падкрэслілі ў Камітэце па аўтамабільных дарогах.

Аднак усім вядома вялікая шкода ад дарожнай солі. Напэўна, кожнаму даводзілася "выводзіць" белыя салявыя разводы з абутку. А як церпяць ад яе аўтамабілісты! Увесну многім з іх прыходзіцца "латаць" іржавыя дзіркі на сваім аўто — вынік уздзеяння солі на метал.

Эколагі таксама б'юць трывогу: глебы, у выніку шматгадовага ўздзеяння солі, дэградзіруюць і ператвараюцца ў гэтак званыя "ўрбазёмы".

У інстытуце праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі Акадэміі навук Беларусі адзначаюць, што перш за ўсё соль аказвае дрэннае ўздзеянне на расліны, а глебы, кранутыя мінераламі, ужо не з'яўляюцца натуральнымі экасістэмамі. У інстытуце экалогіі ўпэўнены, што развітыя краіны перайшлі на іншыя тэхналогіі і апрацоўваюць дарогі нейкімі спецыяльнымі рэагентамі. А мы і наша прырода пакутуем ад дзяржаўнай беднаты.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**



# Тотальный контроль,

## или Опять во всем виноваты частники

*А. Лукашенко провел в начале недели совещание по вопросам совершенствования внешнеторговой деятельности, которое еще и еще раз подтвердило намерения исполнительной власти взять под свой тотальный контроль все хоть сколько-нибудь прибыльные виды деятельности. Вновь пускается в оборот антирыночная, антипредпринимательская риторика. Коммерсанты устами белруководителя рисуются в глазах избирателей как злобные, набивающие мешки деньгами кровососы, "которые жируют".*

"Экспортно-импортные операции с прибыльной продукцией не приносят существенного дохода белорусским производителям, народу и государству в целом из-за цепочки многочисленных посредников, среди которых подавляющее большинство — частники", — вот повод, придуманный для того, чтобы начать очередную расправу с частными торговцами. Официально, на высоком совещании обсуждались меры "по оптимизации и повышению прозрачности" потоков вывозимой из Беларуси и ввозимой в республику высокодоходной и высоколиквидной продукции, в том числе товаров критического импорта и экспорта (подсолнечное масло, сахар, табачное сырье, автомобили, нефтепродукты, минеральные удобрения, уголь, щебень и т.д.).

Лукашенко потребовал с 1 апреля 2003 года наладить четкую схему сбыта белорусских тракторов в России через единую государственную дилерскую сеть — торговый дом, созданный ПО "Минский тракторный завод", и РУП "Белвнешторгинвест" Управления делами президента Беларуси. По мнению А. Лукашенко, это "позволит сократить проникновение на данный рынок нелегальной тракторной техники, увеличить денежные поступления в государственный бюджет".

По этому поводу возникает несколько вопросов. Во-первых, кто все-таки теряет огромные деньги, заработанные на посреднических услугах, Беларусь или Управление делами президента? И почему эти несовместимые реальности, как-то Республика Беларусь и закрытые для контроля госорганы, постоянно совмещаются? Во-вторых, неужели наши любезные руководители ни разу не открыли ни один учебник по рыночной экономике и не знают, что эффективная торговля, наряду с производством, занимает не менее важное место в обеспечении эффективности всей экономики, а конкуренция, возникающая при множественности торговцев, вызывает снижение цен на рынке и повышение качества продукции?

И вообще, вы можете себе представить, чтобы канцелярия президента Буша занималась торговлей сигаретами или рыбными консервами? Если бы Буш пошел на этот шаг, он в тот же момент утонул бы в море критики, а назавтра отправился отдыхать на Канары. Навсегда.

**Александр СИЛИЧ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

***Владимир КОВЧУР:***

# Не нравится баланда — заказывай обед в ресторане

*Портрет Лукашенко в камерах вешать не запрещают. В тюрьмах молятся на него, как на Бога.*

*Так говорит начальник Комитета исполнения наказаний МВД Республики Беларусь, полковник* ***Владимир Ковчур.***

Причина почитания Александра Григорьевича в местах не столь отдаленных проста: в июле прошлого года он подписал закон об амнистии, одна из главных целей которой — снижение численности осужденных в местах лишения свободы.

Под действие закона об амнистии попало свыше 45 тысяч человек. Отказано в применении амнистии 6,7 тысячи человек.

"*В этом году амнистия исключается,* — заявил начальник КИНа. — *Она не должна превращаться в обыденность*".

### Особый режим

По словам Владимира Ковчура, положение в единственной в Беларуси колонии особого режима в Глубоком крайне серьезное. Как известно, амнистия на особо опасных рецидивистов не распространяется. "*В минувшем году в Глубокое поступило 900 человек, а убыло — ноль, — говорит Ковчур. — У этих осужденных большие сроки, к ним не применяется условно-досрочное освобождение. Поэтому руководством МВД принято решение об открытии еще одной колонии особого режима на базе Волчьих Нор (Брестская область). В Глубоком сейчас будут содержаться лица, которые, согласно приговору суда, должны сидеть в тюрьме*".

### Утром — деньги, вечером — стулья

Начальник КИНа весьма скептически смотрит на открытие в стране платной тюрьмы. На его взгляд, она будет убыточной для того, кто ее построил. "*Мы в Беларуси не найдем столько обеспеченных клиентов*", — говорит Владимир Александрович.

Хотя Ковчур убежден, что, например, в следственных изоляторах все медицинские услуги должны быть платными. "*Пусть приглашают специалистов, консультантов и платят за это,* — говорит он. — *Понимаете, они у нас зубы ремонтируют и вставляют! На свободе вам бесплатно зубы вставят?..*"

В белорусских СИЗО, вероятно, скоро введут и платное питание. Не нравится баланда — заказывай обед, ужин или завтрак, например, в "Журавинке". Были бы деньги.

"*Сделаем платные магазины с разнообразным ассортиментом,* — делится Ковчур своими планами. — *Пожалуйста, переводите деньги и покупайте все, что душе угодно. Мы вообще голодом никого не морим. Сейчас в посылке весом тридцать килограммов можно передавать любые продукты, за исключением спиртных и скоропортящихся. Но люди не могут сегодня собрать тридцать килограммов! Кстати, на Западе уже нет посылок: иди в магазин и покупай, что надо*".

Все эти нововведения, по словам Ковчура, намереваются ввести уже в этом году. "*Законодательству это не противоречит,* — говорит начальник КИНа. — *Так сказать, гуманизация...*"

### Три шага назад

Согласно официальной статистике, по состоянию на 1 января 2003 года в исправительных учреждениях и СИЗО Беларуси содержалось 48767 человек, что на 8297 человек (20,5%) превышает лимит по наличию жилья. В исправительных колониях переполнение составило 20,8%, в тюрьмах — 35,9%, в СИЗО — 26,8%.

Правда, если раньше Беларусь занимала ***второе*** место в мире по количеству осужденных в мире, то по последним данным — уже ***пятое***. Нас опережают США, Россия, Казахстан и Кальмановы острова.

### Казнить, нельзя помиловать

На вопрос "Как вы относитесь к такой мере наказания, как смертная казнь?" Владимир Ковчур ответил так: "*Как гражданин, я — за смертную казнь. Хотя она у нас фактически отменена. Например, если в 1996 году приводилось в исполнение до 40 приговоров в год, то в минувшем — только 7, в позапрошлом — четыре. В нынешнем году пока приведено в исполнение 5 смертных приговоров.*

*В некоторых случаях альтернативы смертной казни нет. Все эти маньяки, убийцы... Даже на участке пожизненного заключения меньше трех трупов ни за кем не числится...*"

### «Хочу сидеть в Беларуси!»

На сегодняшний день в белорусских местах лишения свободы находится 1331 иностранец. Из них 668 человек — из России, 82 — из Грузии, 50 — из стран Балтии, 238 — из Украины, 44 — из Армении.

С рядом государств Беларусь заключила конвенцию о передаче осужденных. Однако иностранца могут отправить на родину только в том случае, если он сам этого пожелает.

"*Мы проводим с ними соответствующую работу, просим, чтобы они ехали отбывать наказание в родную страну. Нам же не платят деньги за перевыполняемость!* — говорит Ковчур. — *А они не едут. Говорят, хочу сидеть здесь! В этом году мы передали только 20 иностранцев*".

Кстати, в минувшем году за границей задержано 106 белорусов. Из них лишь 4 захотели вернуться в свою страну.

### К сведению

Средняя стоимость содержания одного осужденного в месяц в 2002 году составила 87,9 тысячи рублей.

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля

29 СТУДЗЕНЯ 2003 г.

ПУЛЬС

## Беларускія памежнікі не любяць гераін

Беларускія памежнікі прадухілілі спробу кантрабанднага правозу партыі гераіну агульнай вагой каля 3 кілаграмаў.

Падчас дагляду аднаго з вагонаў пасажырскага цягніка “Масква — Калінінград” нарад Смаргонскага пагранатрада знайшоў і канфіскаваў тры падазроныя цэлафанавыя пакеты, у якіх знаходзіўся парашок бэжавага колеру. Вынік праведзенага на месцы экспрэс-аналізу паказаў, што гэта наркатычны сродак. Пасажыры і праваднікі адмаўлялі сваю прыналежнасць да перавозкі гэтага грузу. Яго канфіскавалі.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Ленін застанецца. У Гродне

Гродзенскі гарвыканкам не збіраецца пераймяноўваць плошчу Леніна і дэманціраваць помнік правадыру пралетарыяту. Такім чынам, праігнараваны подпісы 600 гродзенцаў, якія былі яшчэ месяц назад занесены ў гарвыканкам.

*— Мы будзем надалей працягваць збор подпісаў, і гэтыя подпісы накіруюцца ўжо да новай улады, — кажа* ***Уладзімір Хільмановіч****, ініцыятар збору подпісаў. — З сённяшняй уладай няма сэнсу гаварыць, бо яна адкідвае ўсе нашы прапановы.*

Нагадаем, што Уладзімір Хільмановіч перадаў подпісы 597 гродзенцаў 20 снежня ў агульны аддзел гарвыканкама. Жыхары абласнога цэнтра патрабавалі дэмантажу помніка, а таксама перайменавання плошчы Леніна ў плошчу Волі і ўшанавання на гарадскім узроўні дзён народзінаў Кастуся і Віктара Каліноўскіх.

У праграме “Спадчына”, якая была зацверджана дэпутатамі гарадскога Савета яшчэ восем гадоў назад, прадугледжваецца стварэнне мемарыяльнай дошкі ў гонар Кастуся Каліноўскага. Аднак да сённяшняга часу яе ў Гродне няма. На будынку чыгуначнага вакзала ёсць толькі мемарыяльная шыльда, прысвечаная паўстанню 1863—1864 гадоў.

**Сяргей АПАНОВІЧ.**
*pahonia.promedia.by*

## Да фермера, на майстар-клас

У сядзібе фермерскай гаспадаркі “Дубрава”, што ў Віцебскім раёне, днямі адбыліся навукова-практычныя заняткі для кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, якія вучацца на факультэце павышэння кваліфікацыі Віцебскай ветэрынарнай акадэміі.

Дарослыя “вучні”, прыбыўшы ў госці да вядомага фермера В.Рошчынскага, былі ў захапленні не толькі ад вонкавага выгляду ягонай гаспадаркі, лепшай у раёне, але і ад яе вытворчых дасягненняў. Фермер, якому некалькі гадоў таму перадалі землі адсталага калгаса, дабіўся вынікаў, да якіх далёка дзяржаўным сельскім прадпрыемствам. У прыватнасці, летась у “Дубраве” надой у статку з 240 кароў склаў у сярэднім 3500 кілаграмаў малака — на тону больш, чым па раёне.

Вышэй за сярэднераённыя ў фермера і ўраджаі. Галоўны ж вынік заняткаў у фермерскай гаспадарцы — наглядны прыклад таго, што можа даць краіне і людзям лібералізацыя эканомікі, пазбаўленне яе ад камандна-адміністрацыйных метадаў кіравання.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Лісіца напала на вяскоўца

Нямала непрыемных хвілін давялося днямі перажыць жыхару вёскі Навасёлкі-1 Пастаўскага раёна, калі яму на спіну ўскочыла лісіца і пачала кусацца. Пасля гэтага інцыдэнту вяскоўцу трэба прайсці курс антырабічнага лячэння ад шаленства, бо звярок, як потым высветлілася, быў хворы.

Лісіцу і раней бачылі на вуліцах, здохлі тры свойскія сабакі, куды заглядваў шалёны звер. Зараз у акрузе прымаюцца меры па адстрэле ўсіх бадзяжных сабак і лісіц.

## Расія не хоча нашага малака

Хоць летась ААТ “Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат” стаў адным з пераможцаў конкурсу “Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь на расійскім рынку”, яго прадукцыя аказалася слаба запатрабаванай у суседняй краіне, куды раней ішло да 70% вырабаў камбіната.

Пасля павышэння ў нашай краіне закупачных цэн на малако расійскі спажывец лепш раскупляе сваю прадукцыю, нягледзячы на не горшую якасць. Продаж кансерваў па цэнах ніжэй за сабекошт толькі ўскладніў становішча прадпрыемства.

Па выніках года страты МКК склалі амаль мільён долараў, калі пазалетась калектыў меў 1,7 млрд. рублёў прыбытку.

## Служба дапамогі на вёсцы

Аднымі з першых у краіне стварылі спецыялізаваную гаспадарчую групу па аказанні паслуг насельніцтву ў Докшыцкім раёне. Па заяўках, у першую чаргу пажылых людзей, хворых і адзінокіх грамадзян, за невялікую плату тут чысцяць дымаходы, рамантуюць дахі дамоў, нарыхтоўваюць дровы і выконваюць іншыя паслугі.

Тым, каму асабліва цяжка і маркотна жыць, прыходзіць на дапамогу прыняты ў штат псіхолаг. За кошт пазабюджэтных сродкаў група набыла сабе каня і неабходны інвентар для работы на прысядзібных участках. Неўзабаве тут мяркуюць купіць мікрааўтобус для перавозкі цяжкахворых, а таксама прыняць на працу швачку, цесляра і спецыяліста па вырабе і рамонце печаў.

**Уладзімір ШЫК.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Дэмакратыя, у ружжо!

*Генерал Казлоўскі прапануе ўраду ваенную рэформу*

*Міжнародным фондам рэабілітацыі здароўя былых вайскоўцаў пры пасрэдніцтве Навукова-даследчага інстытута Мізэса распрацаваны праект ваеннай рэформы ў Беларусі. Дэвіз дакумента ў наступных словах: “У Беларусі патрэбна кардынальнае рэфармаванне сістэмы нацыянальнай бяспекі і яе галоўнай састаўляючай — палітычнай. Пачынаць рэформы ў арміі трэба з узнаўлення легітымнай канстытуцыі, дэмакратыі, законнасці і правапарадку, з унясення прынцыповых змяненняў у дзейнасць органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад...”.*



З пытаннямі накont праекта рэформы мы звярнуліся да кіраўніка фонду і галоўнага распрацоўшчыка праграмы рэформ у арміі былога міністра абароны П.П.Казлоўскага.

**— Павел Паўлавіч, чаму Вы наогул узяліся за распрацоўку гэтага дакумента, — тым болей у дзяржаве, якая ні да каго не прыслухоўваецца?**

— Армія — гэта мая прафесія, маё жыццё. Так атрымалася, што я разам са сваёй камандай стаяў ля вытокаў стварэння беларускай нацыянальнай арміі. Вярхоўны Савет 12-га склікання даў мне ў свой час даручэнне ўзначаліць Міністэрства абароны, даверыў лёсы людзей. Тады мы пачыналі скарачэнні былой савецкай ваеннай групоўкі з перспектывай яе рэфармавання ў беларускія Узброеныя сілы, якія маглі б быць па кішэні дзяржаве. У 1994 годзе завяршылі толькі план скарачэння ваеннай групоўкі і планавалі правесці паглыблены план рэфармавання Узброеных сіл, дзе б выконваліся асноўныя прынцыпы, на якіх фарміруюцца арміі ўсіх цывілізаваных краін свету...

**— Што за прынцыпы?**

— Перш за ўсё гэта кантроль грамадзянскай супольнасці за сілавымі структурамі, у тым ліку за Узброенымі сіламі. Таксама — дэмакратызацыя самой службы ў арміі, пераход на прафесійны ці на змешаны прынцып прызыву, кантроль за расходаваннем грошай у арміі, празрыстасць ваеннага бюджэту і гэтак далей.

**— Вы лічыце, што зараз гэта зрабіць яшчэ можна?**

— Я не хачу крытыкаваць тое, што робяць цяперашнія кіраўнікі арміі. Ёсць спробы рэфармавання. Сярод афіцэраў шмат прафесіяналаў, якія хочуць бачыць армію сапраўднай. Першай умовай для таго, каб сёння правесці эфектыўныя рэформы Узброеных сіл (я пра гэта кажу ў сваім праекце), з’яўляецца наяўнасць дэмакратычнай дзяржавы. Без гэтага рэфармаванне арміі немагчыма. Тое, што робіцца зараз, — звычайныя спробы лакіроўкі.

**— Чаму Вы так лічыце?**

— У тым грамадстве, дзе існуе таталітарны рэжым, армія таксама падстройваецца пад яго і служыць гэтаму таталітарнаму рэжыму.

**— Вы пішаце ў праекце рэформы: “Адміністрацыя прэзідэнта, урад і іншыя структуры ўлад не выпрацавалі адэкватную сучасным пагрозам і выклікам архітэктуру нацыянальнай бяспекі дзяржавы...”**

— У маёй працы ідзе гаворка не толькі пра рэфармаванне Узброеных сіл, але і пра рэфармаванне сістэмы нацыянальнай бяспекі, якую забяспечваюць усе сілавыя структуры. Нядаўна прымалася новая ваенная дактрына, але ўся гэта работа праводзіцца без шырокага і галоснага абмеркавання ў грамадстве. Праца над дактрынай ішла кялейна, у вузкім коле кіраўнікоў дзяржавы. У гэтым хаваецца, на мой погляд, вялікая небяспека. Таму што ў сённяшнім кіраўніцтве дзяржавы пагрозы разумеюць па-свойму. Напрыклад, ваенная дактрына 1992 года не малявала для нас вобраза ворага. Там гаварылася пра тое, з кім мы будзем сябраваць і супрацоўнічаць. У новай ваеннай дактрыне, якая зараз існуе, разгледжваецца і яўна абрысоўваецца вобраз ворага — НАТО.

**— Дарэчы, пра нашых сапраўдных і ўяўных ворагаў. Вы пішаце ў сваёй працы, што “пагроза прамой ваеннай агрэсіі супраць Рэспублікі Беларусь з’яўляецца слаба выражанай, а нанясенне ваенных ударaў па тэрыторыі нашай краіны пры дапамозе ядзернай і звычайнай зброі малаверагодна”. Як Вы разглядаеце ў гэтым святле нядаўняе падпісанне Лукашэнкам закона аб ваенным становішчы?**

— Я не думаю, што падпісанне гэтага дакумента прывязвалася да канкрэтных падзей. Але гэта ўкладваецца ў агульную схему дзеянняў цяперашняга кіраўніцтва краіны. Людзі пытаюць: чаму гэта робіцца менавіта зараз, чаму не паўгода таму, калі пагрозы вайны ў Іраку, напрыклад, не існавала? Гэта, безумоўна, насцярожвае.

**— У праекце Вашай рэформы Вы нагадваеце пра “нізкі статус абаронцы Рэспублікі Беларусь”. Што Вы маеце на ўвазе — нізкія заробкі вайскоўцаў?**

— Не толькі. Нягледзячы на тое, што армія сёння па ступені даверу на другім месцы ў грамадстве, быць абаронцай непрэстыжна. Сёння аўтарытэт абаронцы Айчыны — нізкі, нізкая колькасць жадаючых служыць ва Узброеных сілах. Многія не хочуць ісці ў армію. Армія зараз вельмі дрэнна фінансава забяспечана, сацыяльныя гарантыі вайскоўцаў відавочна слабыя.

Калі мы служылі, гарантавана атрымлівалі кватэру, добрую пенсію. Цяпер з гэтага нічога не засталося. Дзяржава патрабуе ад вайскоўцаў выканання абавязкаў, а сама перад вайскоўцамі абавязацельстваў не выконвае. Адкуль жа з’явіцца жаданне служыць у такой арміі?

**— Вы прапаноўваеце ў сваёй рэформе тэрмін службы скараціць да 6 месяцаў. Думаеце, што гэта рэальна?**

— Хачу падкрэсліць, што гэта тэрмін абавязковай службы. Я лічу, што пры выкананні ўсіх пунктаў нашай праграмы рэформаў, у тым ліку пераход у большасці на прафесійную армію, прыняцце закона аб альтэрнатыўнай службе і г.д. — рэальна.

**— Вы ўсур’ёз лічыце, Павел Паўлавіч, што з Вашай праграмай рэформ будуць знаёміцца ў цяперашнім кіраўніцтве?**

— Наконт яе хуткай рэалізацыі я, канешне, не маю ілюзій. Але, напрыклад, на нядаўняй прэзентацыі нашай праграмы, якая прайшла ў Міжнародным адукацыйным цэнтры, прысутнічаў прадстаўнік Міністэрства абароны. У тым, што яе будуць чытаць людзі, якія ў гэтым зацікаўлены, я не сумняваюся.

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**

НЕЛЕПОСТИ

# В микрорайоне «Восток» потечет божественный бензин

Выглянувшее из-за зимних туч солнце ищет, на чем остановить свой взгляд. Оно равнодушно скользит по крышам многоэтажек микрорайона “Восток” и долго играет с куполами небольшой церквушки на пустыре. Удивленно смотрит в огромную цистерну с пропаном, в ветровые стекла машин, стоящих в очереди за бензином. Машины заправляются в десятке метров от сверкающих золотом куполов храма.

Может ли такое быть? У нас — может.

В 1991 году на пустыре между Восточным кладбищем и улицей Калиновского священнодействием Алексия II основан Храм “в честь всех Святых, в память безвинно убиенных”. Выделили ему место среди колдобин и ям, рядом с гаражами, станцией технического обслуживания, небольшой заправкой.

Возводить церковь начали лишь через пять лет, в 1996 году. Продолжается строительство и сейчас, в 2003-м. И конца ему не видно.

В прошлом году рядом с храмом построили новую заправку, самую современную. Сделали это быстро, будто в насмешку над соседним долгостроем.

Возвышается он на фоне голого пустыря, огненный блеск куполов можно увидеть даже с проспекта Скорины. Наперегонки с солнечным зайчиком я скользил от станции метро к храму. Церковь строится по уникальной для нашей страны технологии, будет полностью деревянной, как в старину. Окутанная строительными лесами, она уже сейчас привлекает внимание горожан.

Нынешний этап строительства — монтажные работы. На верхотуре, около главного купола, одиноко прохаживался строитель. Еще трое разгружали только что приехавший грузовик с бревнами. Бревнами была завалена и вся территория вокруг храма. Пахло сосной и талым снегом. Шатаясь от ветра, пыхтел небольшой кран, трепыхались куски красной материи, непонятно зачем прикрепленной к строительным лесам.

Церковь окружена глухим забором, вокруг которого — строительный мусор, кучи песка, торчат из земли провода. Сколько времени понадобиться, чтобы разровнять пустырь, вывести мусор со свалки, закончить внутреннюю отделку храма?.. Поэтому на щите возле него не указан даже приблизительный срок окончания строительства. Еще долго будет ежиться деревянный “теремок” от холода и равнодушия.

Однако главная неприятность для церкви не в медлительности строителей и слабом финансировании. Хотя эти беды, безусловно, тоже ее коснулись. Соседство с АЗС — вот проблема из проблем.

Ладно бы они стояли неподалеку, а то — впритык! В нескольких метрах, как будто и заправка, и церковь — одно хозяйство.

Как пародия на соблюдение техники безопасности, между АЗС и храмом в землю вкопаны два железных ящика с песком. Будто песок поможет, защитит дерево от огня.

На заправке постоянно заправляются и отъезжают автомобили. Здоровый мужик матерился вслух, от гаражей слышался стук железа. Представьте себе, что будет, когда церковь наконец-то откроют, когда начнется первое богослужение? Музыкой зазвенят колокола, запоет церковный хор — а рядом будет пищать тормозами какая-нибудь “шестерка”-развалюха...

Возмущаться по поводу близорукости чиновников, которые планировали застройку района, сейчас не имеет смысла. И заправку не разрушишь, и церковь никуда не денется. Единственное, что можно сделать, — огородить АЗС забором, провести хоть какую-то границу между духовной и автомобильной жизнью.

Хорошо, что в нашей стране строят церкви, но плохо, что их строительство часто носит формальный характер. Я видел храмы, расположенные в самых невероятных местах, — в низинах, в болоте, на глухих задворках.

Раньше было по-другому. Церкви строили на возвышенностях, в самых лучших местах, чтобы каждый мог легко найти дорогу к Богу. Тогда Храм был центром духовной жизни, кладовой духовности и нравственности. Сейчас, к сожалению, он утратил это свое значение.

Церковь в микрорайоне "Восток"— еще одна заложница людского формализма. И те, кто принимал решение о строительстве храма на голом пустыре, и те, кто давал разрешение на открытие рядом с храмом АЗС, плюнули в душу верующим, глубоко оскорбили их чувства.

Зато бензин здесь — божественный.

**Николай КОЗЛОВИЧ.**
**Фото IREX/ProMedia.**



*Федор ВЕЛИКОСЕЛЕЦ:*

# «Стремимся к европейской модели...»

*Десять лет назад начала регулярно выходить* ***“Национальная экономическая газета”****. Сегодня это издание хорошо известно не только в Беларуси, но и далеко за ее пределами. Статистика читателей только электронной версии газеты показывает, что к ней обращаются люди из десятков стран мира — от соседней России до далеких США, Австралии, Новой Зеландии.*

*Газета состоялась. Не только как средство массовой информации, но и как бизнес. Что обеспечило ей успех и признание читателя, как прошедшие годы повлияли на облик издания, каковы перспективы белорусской деловой печати — об этом наш разговор с главным редактором газеты* ***Федором ВЕЛИКОСЕЛЬЦЕМ****.*



**— Федор Федорович, 10 лет назад, когда еще не знакомо было понятие маркетинга, как удалось угадать потребности читателя?**

— Идея издания такой газеты, можно сказать, витала в воздухе. Союзная “Экономика и жизнь” стала российской и Беларусь осталась без важного для производственного сектора источника информации, анализа происходящих процессов. И это в период, когда рушилось плановое хозяйство, принималось множество новых документов, формировалось отечественное законодательство, то есть тогда, когда потребность в таком издании ощущалась очень остро. Понимание ситуации и побудило группу опытных журналистов материализовать идею.

**— Сегодня отсутствие стартового капитала и дороговизна кредитных денег являются существенным препятствием для реализации многих интересных идей. Как тогда обстояли дела с этим?**

— Средств на издание не было и у нас. Поэтому первым шагом инициаторов было обращение в правительство с предложением учредить такое издание, дать на него немного денег, а дальше мы брались все сделать наилучшим образом. Увы, момент оказался для нас неподходящим в том смысле, что тогда депутаты уже вовсю обсуждали последствия финансирования всей прессы (и бывшей партийной, и молодежной, и отраслевой) правительством. Как, мол, покритиковать премьера, если он тебя финансирует? В такой ситуации учреждать еще одну газету от правительства было бы, как дразнить гусей. Нам высказали понимание, поддержку на словах, можно даже сказать, благословили на доброе дело, но без совминовских денег и учредительства.

В поисках средств мы пошли к потенциальным рекламодателям, и что удивительно — какое доверие было! — люди, не видя газету, решились разместить в ней рекламу. Так удалось выпустить первый номер. С тех пор и по сей день газета обеспечивает себя сама — мы никогда не получали ни государственных дотаций, ни грантов, что, без сомнения, хорошо.

**— За рубежом издательская деятельность — довольно прибыльный бизнес. Насколько доходна такая деятельность в Беларуси?**

— Предпринимательство в сфере средств массовой информации в нашей стране пока не может приносить больших доходов. Чтобы получать их, нужно обеспечить высокие тиражи, большие рекламные поступления. И первое, и второе сейчас проблематично по разным объективным причинам. Высокие тиражи отдельных государственных изданий — это свидетельство не удачного бизнеса, а, скорее, наоборот. Что понятно. Государство, издавая газеты, задачей номер один ставит отнюдь не добывание таким путем денег. Беларусь, с ее теперь уже менее чем десятимиллионным населением, никак не отнесешь к потенциальному издательскому клондайку. К тому же значительная часть тех, кто мог бы подписаться на наше или другое издание, хронически испытывает безденежье. А тут еще для юридических лиц установлены ограничения на подписку и рекламу в негосударственных изданиях (при декларируемом в Конституции равенстве форм собственности) в виде норм, позволяющих только незначительную часть таких расходов считать необходимыми затратами в производственной деятельности предприятий, то есть включать их в цену продукции. Тем не менее возможности для финансов, я бы сказал, скромноуспешной деятельности есть, о чем свидетельствует как наш опыт, так и опыт некоторых других изданий. Эти условия позволили нам обеспечить определенную экономическую независимость — мы сегодня имеем свою материальную базу, необходимую для выпуска современного издания. За исключением, разумеется, типографии.

**— Как складывались на протяжении этих лет взаимоотношения газеты с государством? Ведь почти все белорусские негосударственные СМИ на том или ином этапе своего развития конфликтовали с властью — кто больше, кто меньше.**

— Особых недоразумений не было. Хотя в истории имели место эпизоды, когда проверки накладывались одна на другую. То ли мы попадали в поле зрения государственных контролеров за компанию с другими СМИ (для создания видимости объективности), то ли напугать хотели именно нашу газету — не знаю. Серьезных конфликтов, повторю, не было. Может быть, потому, что газета благодаря финансовой независимости как от государственного бюджета, так и от каких-либо грантов, занимает взвешенную, независимую от политической конъюнктуры позицию. Стараемся донести в обязательном порядке государственную точку зрения, оставаясь при этом открытой трибуной и для тех, кто придерживается взглядов, не совпадающих с официальной экономической доктриной .

Бывает, что критика воспринимается болезненно. До редакции доходят сведения, что среди чиновников есть недовольные газетными публикациями, но мы полагаем, что это временные эмоции, которые со временем пройдут. Мы не можем не предоставлять слово оппонентам : свободное конструктивное обсуждение проблем — необходимый элемент демократического общества. Впрочем, если суммировать наши отношения с представителями власти, то, безусловно, в итоге будет положительное. У нас самое тесное сотрудничество со всеми министерствами, другими органами госуправления. Они справедливо видят в газете партнера, который очень многое делает по разъяснению их политики вообще и конкретных решений в частности. По разным поводам заслуги газеты неоднократно отмечали премьер-министры, председатель Конституционного суда, председатель Национального банка, министр экономики, парламентарии, многие другие высокие должностные лица.

**— У наших зарубежных коллег сложилось мнение, что быть журналистом и издавать газету в Беларуси опасно. Что говорит на этот счет ваш опыт?**

— Мы не сталкивались с опасностью. Хотя, конечно, в любом случае надо быть готовым отвечать за свои слова. Может быть (я не очень хорошо знаю зарубежное законодательство о СМИ) наше законодательство больше, чем какое-либо иное — немецкое или польское — напоминает минное поле, тогда надо осторожнее по нему идти... коль мы знаем, что оно минное.

**— Как вы полагаете, Федор Федорович, изменился ли за годы существования газеты белорусский читатель?**

— Разумеется, изменился. Он стал более просвещенным, а значит, и более требовательным. Сегодня для него недостаточно получать только исходную информацию о каких-то новостях в условиях хозяйствования. Он хочет уловить тенденции, заглянуть вперед, ему важно спрогнозировать экономическую конъюнктуру и определить место своего бизнеса в ней.

**— Учитывает ли ваша газета изменение читательского вкуса?**

— Когда в 1992 году мы разрабатывали концепцию газеты, то после длительных дискуссий решили сделать ее простой и ясной, публиковать документы, что называется, “по факту”, то есть не запутывать читателя никакими проектами, возможными вариантами. Тем самым мы шли навстречу запросам того читателя — ведь десять лет назад надо было начинать с простейшего — с освоения новых экономических категорий. Надо было просто выучить создававшиеся правила хозяйствования. В соответствии с этим и формировался наш информационный продукт. Сегодня, отвечая запросам нынешней читательской аудитории, публикуем больше аналитических материалов, стараемся представить как можно больше разных точек зрения на проблему, перспективы бизнеса и т. д., чтобы читатель имел возможность сам принять правильное для него решение. Это модель традиционной европейской деловой газеты. Именно к такому образцу мы сегодня и стремимся.

***

**“Народная воля” поздравляет коллектив “Национальной экономической газеты” с юбилеем и желает всяческих успехов в осуществлении творческих задумок.**

ЭКАНОМІКА

# На склад?

Прадпрыемствы вядучых краін працуюць на... продаж і прыбытак. Мэта вытворцаў — паболей прадаць сваіх вырабаў і тавараў і па лепшай цане.

Многія ж беларускія калектывы працуюць на... склад. Вось даныя афіцыйнай статыстыкі. На 1 студзеня гэтага года ўдзельная вага запасаў склала 67 працэнтаў да сярэднямесячнага аб’ёму вытворчасці супраць 63,8 працэнта на пачатак мінулага года. Найбольшую ўдзельную вагу ў запасах гатовай прадукцыі складаюць вырабы машынабудавання і металаапрацоўкі, лёгкай, харчовай, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці. Склады завалены крупамі. Яе там — 5,7 тысячы тон, або 504,2 працэнта да сярэднямесячнага аб’ёму. Шмат на складах кавальна-прэсавых машын, матацыклаў, тканін...

Праца на склад — згуба для эканомікі. За вырабы і тавары, у вытворчасць якіх укладзены вялізныя сродкі, не атрыманы грошы. Адсюль — запазычанасць па зарплаце, адсутнасць абаротных сродкаў на набыццё сыравіны, камплектуючых для наступнай працы. А галоўнае — няма грошай для ўдасканалення вытворчасці, замены зношанага абсталявання. Адкладваецца плата за энерганосьбіты, за што даюцца высокія штрафы.

І невядома, прададуць тавар ці будзе ён наогул рэалізаваны. Бо з часам многія рэчы псуюцца, страчваюць свае якасныя паказчыкі, выходзяць з моды.

У чым жа прычыны затаварвання? Чаму вырабы страчваюць пакупнікоў нават у Расіі? Спецыялісты лічаць, што галоўныя прычыны гэтага — параўнальна высокія цэны на беларускія вырабы і невысокая іх якасць.

Практычна ўсё мінулае дзесяцігоддзе вытворчая база прадпрыемстваў амаль не абнаўлялася. І як вынік — зношанасць асноўных фондаў наблізілася да 80 працэнтаў. А на ўстарэлым, дабітым абсталяванні хіба можна вырабляць сучасныя і высокаякасныя рэчы? Таму і выцясняюцца беларускія тавары нават з расійскага рынку. Паколькі працоўныя калектывы ўсходняй суседкі набываюць сыравіну і энерганосьбіты па больш нізкай цане, чым беларускія, іх прадукцыя атрымліваецца намнога таннейшай.

Такія негатыўныя працэсы для беларускай эканомікі, відаць, будуць працягвацца, нягледзячы на шматлікія запэўніванні высокіх асоб Расіі і Беларусі аб тым, што ў ходзе стварэння саюзнай дзяржавы з’явяцца аднолькавыя эканамічныя ўмовы для вытворцаў абедзвюх краін. Падобныя словы мы чуем ужо многія гады, а справы застаюцца ранейшымі. Да таго ж Беларусь не мае сродкаў для актыўнага абнаўлення асноўных вытворчых фондаў. Летась зноў выраслі даўгі па плацяжах, значна зменшыўся прыбытак прадпрыемстваў. Трэць з іх — стратныя.

Выйсці з такога незайздроснага становішча можна было б з дапамогай замежных інвестыцый, найперш з перадавых заходніх краін. Аднак разлічваць на вялікі прыток адтуль капіталаў не прыходзіцца. Прычыны вядомыя. У Беларусі не створаны добрыя ўмовы для інвестараў. Ды і паводзіны тутэйшага кіраўніцтва ў палітычнай сферы не спрыяюць пашырэнню эканамічных стасункаў з заходнімі краінамі.

Застаецца адзін вектар — усходні. На долю Расіі прыпадае львіная доля беларускага экспарту. Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін і Аляксандр Лукашэнка ў час пасяджэння ў Мінску Вышэйшага савета саюза дзвюх краін асабліва адзначылі той факт, што аб’ём гандлю паміж Беларуссю і Расіяй склаў 10 мільярдаў долараў. Аб’ём сапраўды ўнушальны. Але якая выгада ад яго Беларусі? Даныя за мінулы год пакуль не абнародаваны, яны з’явяцца пазней. Але напрыканцы мінулага года было вядома, што ў гандлі з Расіяй склалася вялікае адмоўнае сальда. Спецыялісты сцвярджалі, што яно перавысіла мільярд долараў. На практыцы гэта азначае, што ўсёй выручкі ад пастаўкі беларускіх тавараў у Расію нават не хапіла на тое, каб аплаціць імпарт адтуль. Каб разлічыцца з усходняй суседкай, давялося амаль усю выручку, што атрымалася ад гандалю з Захадам, перавесці ёй. Вось і не засталося грошай для развіцця ўласнай вытворчасці і выплаты зарплат. Дык каму патрэбен такі гандаль? І чаму Аляксандр Лукашэнка так радуецца яго вялікаму аб’ёму?

**Алесь ДРАБЧУК.**

